# Літва



Літва зьяўляецца далёкім краем, які прымыкае да Польшчы на ўсходзе, які ўвесь пакрыты азёрамі і лясамі. Вітаўт, брат Уладзіслава, кіраваў ім пасьля адыходу ад паганства, разам з каралеўствам Польскім прыняўшы Сакрамэнт Хрыстовы і ў свой час меўшы вялікае імя. Паколькі яго падданыя такім чынам вельмі баяліся быць катаванымі, калі выклікаюць яго нянавісьць; то яны хацелі лепш быць паслухмянымі, чым трапіць у яго няміласьць. Тых, што выступалі супраць яго, ён загадваў зашыць у скуру мядзьведзя, а потым кідаць жывым мядзьведзям, каб яны разадралі яго, і перасьледваў таксама іншымі жудаснымі катаваньнямі; дзе ён скакаў, ён браў паўсюль нацягнуты лук, калі ён тады заўважаў кагосьці, хто састаяў у пары інакш, чым спадабаецца князю, таго ён адразу забіваў стралой, і забіў шмат людзей праз гульню гэтай крывавай лютасьці. Сьвідрыгайла, яго пасьлядоўнік, выкарміў мядзьведзіцу, якая прывыкла браць хлеб зь яго рук; часта бегала ў лясы і вяртаючыся ішла да княскай спальні і шкрабла ўсе дзьверы, і грукала па ім лапамі, то калі яна хацела есьці, князь забіваў кагосьці і давай ёй для ежы. Некалькі шляхетных юнакоў зрабілі замах на гэтага князя і прыйшлі са зброяй у руках да княскай спальні пагрукаўшы ў дзьверы падобна таму, як грукала мядзьведзіца. Сьвідрыгайла падумаў, што прыйшла мядзьведзіца, і адчыніў дзьверы, і быў адразу заколаты шляхціцамі. Пасьля таго панаваньне краінай перайшло да Казіміра. Улетку з-за вады дабрацца ў Літву не проста, узімку можна ехаць па замёрзлым азёрам. Купцы едуць па лёду і сьнегу і бяруць з сабой ежу на шмат дзён. Там няма ніякага добрага, брукаванага шляху, таксама там рэдка трапляюцца гарады і мала вёсак. У літоўцаў

найбольшай гандлёвай каштоўнасьцю зьяўляюцца футравыя вырабы, і выкарыстаньне грошай невядомае, замест грошай яны выкарыстоўваюць футравыя вырабы, як собаль і падобнае. Шляхетныя жанчыны афіцыйна маюць лёкая, ці прыслужніка з лёсам яе супруга, яны называюць іх “дапаможнікамі шлюбу”. Мужчынам не годна, але ганебна мець іншых жанчын акрамя законнай жонкі. Яны лёгка разводзяцца са сваіх шлюбаў, а потым зноўку сыходзяцца. У Літве здабываюць шмат воску і мёду, якія даюць дзікія пчолы ў лясох, ужываньне віна ў іх вельмі рэдкае і амаль чорны хлеб, то яны маюць шмат малака ад быдла. Мова гэтага народу вендская, паколькі гэта вельмі шырокая мова, то яна падзяляецца на 6 сэкт, дзе некаторыя з вендаў адносяцца да каталіцкай царквы, як далматы, харваты, крайны і палякі. Некаторыя да грэцкай ерасі, як балгары, русы і літоўцы. Некаторые выдумалі іншыя ерасі, як Багемія, Маравія і Босныя. Сярод гэтых большасьць народу сьледуе разнастайным вар’яцтвам. Некаторыя таксама жывуць у цемры паганскай сьлепаты, як шматлікія з літоўцаў, вялікая колькасьць якіх вярнулася да хрысьціянскай веры, калі Ўладзіслаў прыняў у гэтым народзе каралеўства польскае, бо да таго некаторыя літоўцы маліліся зьмеям, кожны бацька дому меў у куту зьмяю і карміў яе. Некаторыя лічылі сьвятым агонь, некаторыя сонца і надзвычай велізарны лядовы молат, некаторыя лес, ад усіх гэтых ерасей і павер’яў яны былі вернутыя да Хрыста адным чалавекам з Прагі, якога цяпер завуць Еронімусам, які ўцёк з Багеміі ў Польшчу ў часы зараджэньня і пачатка гусіцкай ерасі, атрымаў ад польскага караля Ўладзіслава пісьмовы загад, быў прыняты літоўскім князем Вітаўтам, прыбыў у Літву і выдаліў з народу раней узгаданую ерась.

## Зямля Русаў

Русы прымыкаюць да літоўцаў, грубы, цёмны народ. Там знаходзіцца вялікі горад Ноўгарад, куды нямецкія купцы дабіраюцца зь вялікімі складанасьцямі. Там маецца вялікае багацьце, шмат срэбра і прадаўцоў ды пакупнікоў каштоўных футравых вырабаў, срэбра важаць і выкарыстоўваюць без чаканкі. Там пасярод рынку ёсьць чатырохкутны камень, хто на яго ўзьбярэцца і не будзе скінуты, той атрымае панаваньне над горадам.

“Нюрнберзская хроніка” Шэделя, 1493 г.
пераклад Д. Лісоўскага